# ВЕСЬНІК

## Беларускага Каталіцкага Душпастырства

Но.1 Сьнежань 1986




**"Дзіўную і слаўную бачу тайну: пячора - неба , Дзева - пасад херувімскі , ясьлі - жыльлё , у якім памясьціўся Незьмяшчальны Хрыстос Бог, якога мы ў песьнях славім".**
**(Царкоўная Калядная песьня)**

**УСІМ БЕЛАРУСАМ І ІХНІМ СЕМ'ЯМ НА ЎСІМ СЬВЕЦЕ ЖАДАЕМ ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ**

---

## КАЛЯДНЫЯ ДУМКІ

Хто з тых, якія чыталі "Новую зямлю" Якуба Коласа не памятае ягонага апісаньня Калядаў , або лепш Куцьці і падрыхтоўкі да яе. З непараўнальным майстэрствам і заміласваньнем аўтар дае нам вобраз радаснага чаканьня, як у прыродзе – дзе лютуе зіма , бо гэта была яе часіна , "але ўжо хутка палавіна; а там цяплом табе павее", – так і сярод людзей, асабліва сярод дзяцей, якім вельмі цікава ведаць "якія матчыны намеры наконт куцьці, наконт вячэры". Нарэнец ідзе апісаньне самой ўрачыстай вячэры зь яе традыцыйнымі стравамі, пачынаючы ад квасу і канчаючы куцьцёю, якую "ўжо елі без ахвоты, абы падатак той аддаць, стары звычай ушанаваць".

Пад уражаньнем чароўнай паэзіі песьняра, чытач можа і не заўважыць, што аўтар бадай нічога ня кажа пра сутнасьць сьвята: не ўрачыстасьці адсутнічае галоўны яе віноўнік. Мімаволі прыходзіць на думку здарэньне, якое мела месца амаль дзьве тысячы гадоў таму назад : "І нарадзіла Сына свайго першароднага, і палажыла Яго ў жолабе, бо не было ім месца ў заезьдзе" (Лк. 2:7).

Бо Каляды – гэта якраз успамін гэтага здарэньня, і калі мы сьвяткуем яго да сёньняшняга дня, то толькі таму, што гэтым нованароджаным дзіцяткам быў ня хто іншы як сам спрадвечны Бог, Госпад наш Ісус Хрыстос.

Прыйсьце ў сьвет Бога зьяўляецца пераломным пунктам у гісторыі чалавецтва. Прыняўшы на сябе людзкую натуру, Ён асьвяціў і ўзьнёс яе да боскай вышыні. Стаўшыся адным з нас, Ён даў нам магчымасьць быць удзельнікамі вечнага боскага жыцьця. Сьвяты Павал пасьля пра гэта скажа: "Калі настала поўня часу, Бог паслаў Сына свайго ... каб нам узяць усынаўленьне ... Дзеля гэтага ты ўжо ня раб, а сын: а калі сын, то і насьледнік Божы праз Хрыста" (Гал. 4:4-7).

Тварэц усяго прыймае выгляд стварэньня. Усемагутны прыходзіць у выглядзе новаранароджанага дзіцятка, якое ў сваёй бездапаможнасьці выцягвае рукі свае да людзей , быццам клічучы іх да сябе і шукаючы іхняй спагады. Якая вялікая розьніца між Ім і тымі , у чыіх руках знаходзіцца адказнасьць за супакой на зямлі і лёс усяго чалавецтва. Для іх супакой – гэта галоўным чынам палітыка "раўнавагі сілаў", сэнс якой у галоўным заключаецца ў тым, што вялікія дзяржавы павінны быць настолькі сільнымі і мець такую магутную зброю, каб баяліся пачынаць варожыя дзеяньні адна супроць другой. Сёньня, дзякуючы дасягненьням навукі, чалавек мае ў сваім распараджэньні жахлівую зброю ў форме ядзернай энэргіі. Безумоўна, тая самая ядзерная энэргія можа быць спатрэбленая і для мірных, карысных мэтаў. Чарнобыльская трагэдыя, аднак, паказала нам , якая жахлівая зьнішчальная сіла крыецца ў ёй , калі чалавек страціць над ёю кантроль. Трагэдыя гэтая была вынікам людзкой памылкі. А што калі нехта захоча сьведама ўжыць ядзерную энэргію з мэтай зьнішчэньня? Сапраўды мы жывем быццам на краю вулькану, які можа выбухнуць у кожную хвіліну. Безумоўна, кожны мір ёсьць лепшы за вайну. Але ці такога міру мы жадаем для сябе і нашых дзяцей?

У выніку вышэй сказанага Божая "палітыка слабасьці" выглядае сёньня больш чым калі прывабнай. Толькі яна ня лёгкая, бо вымагае вялікай маральнай сьмеласьці і сілы духа. На жаль , і можа менавіта таму, яна не мела яшчэ шанцаў быць поўнасьцю выпрабаванай. Калі Хрыстос прыйшоў на сьвет, людзі сустрэлі яго з абыякавасьцю – для Яго не знайшлося нават месца ў іхняй грамадзе, – а некаторыя нават з адкрытай варожасьцю, шукаючы загубіць Яго, бачачы ў безбаронным дзіцяці небясьпеку для свайго становішча.

А сёньня? Ці у нашым веку ўжо так лепш? У вялікай частцы сьвету , у тым ліку і ў Беларусі, Хрысту афіцыяльна месца няма. "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы", які выйшаў нядаўна ў Менску, дае такое пяясьненьне да слова "Хрыстос": "Назва міфічнай асобы Ісуся, культ якога ляжыць у аснове хрысьціянскай рэлігіі". (ТСБМ, т. 5,2, стар. 218). А ў іншых краінах сьвету? Нядаўна мне прыйшлося бачыць наступны жарт ў адной з ангельскіх газэтаў: двое стылягаў ідуць міма плакату з напісам "Вярніце Хрыста Калядам". "Што за нахабства! – кажа адзін зь іх з абурэньнем, – Нават на Каляды яны ня могуць абыйсьціся без рэлігіі". Жарт, у якім адчуваецца сумная праўда. Для многіх сёньня Каляды зьяўляюцца нагодаю правесьці весела час. Месца для Хрыста ў іх няма. Вось мы зноў вярнуліся да Якуба Коласа і Куцьці ў Парэччы ...

Дык што ж нам застаецца сказаць? Пастараемся вярнуць Хрыста Калядам. Адчынім сэрцы нашыя Нованароджанаму Божаму Дзіцятку, што працягвае да нас рукі свае, хочучы мець нас з сабою, не жадаючы нічога нашага, але нас саміх. Маючы ў сэрцах нашых Хрыста, зьблізімся адзін да другога. І, аддаючы разам "Славу Богу на вышынях" , будзем прасіць, каб запанавалі "мір на зямлі і добрая воля сярод людзей"(Лк. 2:13).

Каляды 1986

## КАНЧАЮЧЫ СТАРЫ ГОД

Год 1986 пачаўся для нас балючай стратай: 2 студзеня ў Чыкага пасьля доўгай і цяжкай хваробы адышоў на вечны супакой Біскуп Уладзімер Тарасэвіч, Апостальскі Візытатар для Беларусаў. Уладыка Уладзімер быў мала вядомы паза Чыкага, дзе ад 1958 году аж да сьмерці ён ўзначальваў беларускую парафію Хрыста Спаса. Сваёй шчырай пабожнасьцю, лагоднасьцю і простым абыходжаньнем з усімі ён паланіў сэрцы тых, хто меў шчасьце ведаць яго. Дзеля гэтага ён меў шмат прыяцеляў розных нацыянальнасьцяў і веравызнаньняў. Сьвяты Айцец ня мог знайсьці лепшага наступніка на месца сьветлай памяці Уладыкі Часлава Сіповіча. 8 верасьня 1983 году Уладыка Уладзімер атрымаў біскупскія сьвячаньні і назначэньне на Апостальскага Візытатара. Ён меў вялікія пляны пастырскай дзейнасьці, але лютая хвароба паложыла ім усім канец. Крыху больш як два гады пасьля біскупскіх сьвячэньняў Госпад паклікаў Уладыку Уладзімера да сябе, каб яму даць узнагароду вернага і добрага слугі.

Такім чынам на працягу няцэлых пяці гадоў мы страцілі аж двух архіпастыраў. Бо сёлета мінула пяць гадоў ад сьмерці Уладыкі Часлава Сіповіча, які памёр 4 кастрычніка 1981. У Лёндане увайшло ў традыцыю маліцца за

сулекой ягонай душы ў першую нядзелю кастрычніка ў царкве сьвятых Апосталаў Пятра і Паўла, якую ён заклаў і любіў. Да яго , як мала да каго іншага, падыходзяць словы псальму: "Памяць праведніка жыць будзе вечна, благое весткі ён не збаіцца" (Пс. 111:6-7). Мы ўпэўненыя, што прыйдзе час , калі ягоную асобу і дзайнасьць належна ацэніць увесь беларускі народ.

Вяртаючыся да сёньняшняга дня, Беларуская каталіцкая царква знаходзіцца ў вельмі цяжкім палажэньні, без свайго архіпастыра і з вельмі малым лікам сьвятароў, якія ня ў сілах забясьпечыць належнай пастырскай апекай расьцярушаных па ўсім сьвеце вернікаў. Тым не менш, каб забясьпечыць хоць мінімальную пастырскую дзейнасьць, 30 чэрвеня г.г. Сьвяты Айцец назначыў мяне Апостальскім Візытатарам для беларусаў. Сам факт назначэньня Апостальскага Візытатара вельмі пацяшальны, бо ён паказвае, што беларусы маюць сваё належнае месца ў Сьвятой Царкве. Сумна тое, што, беручы пад увагу лік нашых сьвятароў, Сьвяты Айцец ня меў цяжкага выбару. Дзеля гэтага я не маю ніякіх ілюзіяў адносна адпаведнасьці маёй асобы на такое адказнае становішча. Тым не менш я прыняў назначэньне ў духу паслушэнства, якое я абяцаў маім царкоўным зьверхнікам 28 гадоў таму назад, калі атрымаў ласку сьвятарства, і зразуменьня нашых патрэбаў. Прыняўшы назначэньне, буду старацца рабіць усё, што магу , спадзеючыся не на свае сілы, але на Бога, які ўмее паказаць сваю моц у нашай слабасьці. І , безумоўна, на вашы малітвы.

У канцы 1982 году я пачаў выдаваць Весьнік, які меў служыць патрэбам вернікаў у Англіі і Францыі. Спыніў я яго годам пазьней на просьбу Уладыкі Уладзімера, бо ён насіўся з намерам пачаць выдаваньне бюлетэня, які б быў органам Апостальскага Візытатара. На жаль хвароба перашкодзіла яму зьдзейсьніць гэты плян. Цяпер аднаўляю выдаваньне Весьніка: у нашых цяжкіх абставінах, калі няма магчымасьці асабістых кантактаў і пры адсутнасьці беларускай каталіцкай прэсы, хай хоць гэтае сьціплае выданьне будзе лучнікам між намі.

Нягледзячы на цяжкасьці, будзьма добрай думкі, бо ведаем, што "Бог ва ўсім садзейнічае тым, якія Яго любяць, для іхняга дабра"(Рым. 8:28).

а. Аляксандар Надсон

---

На 1 старонцы: здымак іконы Нараджэньня Хрыстовага ў беларускай царкве сьвятых Апосталаў Пятра і Паўла ў Лёндане.

Apostolic Visitor for Byelor ıssians,
Marian House , Holden Avenue, London N12 8HY, England